PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1817) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 10 САКАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)




Песні яе сумныя, зацяжныя — пра мілага, якога „няма і ня будзя“, бо паехаў у Адэсу; пра зязюлечку, якую папракае ў тым, што ночачкі ёй мала; пра шумлівыя лугі, да якіх звяртаецца з просьбай, каб тугі яе сэрцу не задавалі; пра „коця ў шэранькай капоця“, што памарозіў лапкі ды палез на палаткі...

Сама збірае і запісвае народныя песні. Кажа: „Найлепш спяваюцца мне песні, якія спявала мая мама (яна з вёскі Шпакоўшчына, Смалявіцкага раёна, Мінскай вобласці). Тыя песні я памятаю найлепш. Яны ляглі на чыстую душу, ды так і ляжаць...“

З Таццянай Мархель, заслужанай артысткай БССР, тады актрысай Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску, мы ўпершыню сустрэліся амаль чатыры гады таму назад у Гародні, на святкаванні саракагоддзя тамашняга тэатра. Мы стаялі каля гатэля і беспаспяхова чакалі аўтобуса, які меў нас везці на экскурсію па горадзе. Нешта нецярплівая прабурчэла Таня, за ёю — я. Яна з зацікаўленнем глянула на мяне: „А вы адкуль?“ „А я з „Нівы“!“, — адказала я. „З „Нівы“?!“, — кінулася ў абдымкі Таня.

З тае першай сустрэчы ў маёй памяці найбольш засталася фраза, кінутая ў часе тэатральнага банкету адной з працаўніц тэатра, былых сяброўак Таццяны. Звяртаючыся да другой сяброўкі, яна са здзіўленнем, быццам аб неразумным дзіцяці, сказала пра Таню: „Ты смотри, а она всё ещё говорит по-белорусски!“. Сказала гэта з пачуццём вышэйшасці, лепшасці. Зусім так, як зрабіў гэта нядаўна шасцігадовы Ігар, сынок майго калегі Янкі Максімюка, гаворачы пра свайго двухгадовага брацiка: „Вон малы, вон шчэ білорус!“.

Тады ж пабывалі мы ў Музеі М. Багдановіча — у Дануты Бічэль-Загнетавай, дзе сустрэліся з дзеткамі, што хадзілі ў гурток беларускай мовы. Таня рвалася да гэтых дзетак, пасля спявала ім свае песні, а я расказвала ім пра „Ніву“.



Ад таго часу Таццяна Мархель ужо некалькі разоў была на Беласточчыне. Першы раз выступала з групай акцёраў Віцебскага тэатра. Акцёр Алесь Лабанок чытаў Уладзіміра Караткевіча. Кожны выступаў са сваім, а ён быў асабіста знаёмы з пісьменнікам і мог бы чытаць яго гадзінамі. Пасля была п'еса Леапольда Родзевіча „Конскі партрэт“ — у гэтым вадэвілі ігралі Таццяна Мархель і Рыгор Шацько. А пасля яшчэ Таня спявала народныя, у асноўным вясельныя песні, а Генадзь Шэмет, загадчык музычнай часткі ў тэатры, спяваў і іграў народныя песні і песні Сяржука Сокалава-Воюша.

Пасля Таццяна Мархель выступала з віцебскім калектывам „Грамада“ на „Басовішчы“. рок-фестывалі, арганізаваным беларускімі студэнтамі ў Польшчы. Урэшце з мінскай рок-групай „Уліс“ зрабіла ў Ольштыне запісы на плёнку. І, такім чынам, гэта вядомая беларуская актрыса тэатра, кіно і тэлебачання стала памалу нашай блізкай сяброўкай.

Пачынала ад працы медсястрою. Праз два гады паступіла ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут і пасля заканчэння яго стала драматычнай актрысай. Тры гады працавала ў Гродзенскім тэатры, а ад 1970 года — у Віцебскім драматычным. І тут адкрыў яе для песні галоўны рэжысёр Валеры Мазынскі. Было вядома, што Таццяна любіць спяваць у кампаніі. А тут рабілі інсцэнізацыю „Сымон-музыка“ паводле паэмы Якуба Коласа. Тані запрапанавалі спяваць народныя песні. Было гэта ў 1975 годзе і ад таго часу Таццяна Мархель стала „спяваючай актрысай“.

**(Працяг на стар. 6)**




Што ні сказаць пра ролю і лёс солтыса ў сучасным свеце, то нельга не заўважыць, што жыццё ягонае робіцца штораз больш панурае. Солтыс, як тое апошняе звяно, што спалучае вяршкі дзяржаўнай адміністрацыі з гаспадаром-хлебаробам, павінен зараджаць вясковы люд энергіяй і запалам, верай у лепшую будучыню, у памыснасць лёсу кожнага паасобку і ўсіх агулам. Ён павінен быць тым хітрамудрым інтэрпрэтатарам дзяржаўнай палітыкі ў галіне сельскай гаспадаркі, які ў кожным загадзе зверху адшукае зерне рацыянальнага і данясе яго да ўсіх: і да тых, у якіх узбуяе яно ярыною зразумення, і да тых, у якіх будзе яно прабівацца кволенькай азімінай, плён уцямнасці даючы праз час некаторы. А ці магчыма такое рабіць цяпер, калі прыносіш людзям квіткі на ўплату падатку, з якіх вышчараюцца на чалавека лічбы-пачвары з даўгахвосцем нулёў? Пытанне, безумоўна, рытарычнае. І зусім яно не арыфметычнае.

Уладзімір Дзмітрук, солтыс у вёсцы Ляхі (націск на другім складзе), адкрыта кажа, што ў цяперашняй сельскагаспадарчай палітыцы дзяржавы не кумекае нічагусенькі. У кагосьці тут мазгі звіхнуліся, гэта факт. Але ў каго? У тэлевізары пра гэта не гавораць, хоць заяўлялі, што цяпер будуць гаварыць людзям адну праўду.

Уладзімір Дзмітрук з жонкай Оляй гаспадарыць на 12 гектарах зямлі. Гаспадары яны калі не самыя першыя ў Ляхах, то зараз пасля гэтага. Работа на гаспадарцы ім ладзіцца, заўсёды ўсё маюць тэрмінова і спраўна абсеяна ды абжата. Зямля такая, як ва ўсіх — 5-6 клас — але жыта і бульба ўдаюцца. Усё поле, як кажуць, „за плотам або цераз дарогу“, бо жывуць яны на хутары, метраў трыста ад вёскі.

У Дзмітрукоў тры дачкі. Найстарэйшая Аня вучыцца ў Бе-

**(Працяг на стар. 6)**

## На мяжы

— 29 —

# Ад пачуцця сораму да пачуцця гонару

У першай палове 1989 года ўзнікла сярод дзеячоў БГКТ ідэя склікання Беларускага кангрэсу. У кангрэсе мелі ўзяць удзел прадстаўнікі ўсіх грамадскіх беларускіх сіл, усіх сацыяльных асяроддзяў і ўсіх прафесій. Разважалася ідэя запрашэння на кангрэс прадстаўнікоў усіх беларускіх вёсак. Прадбачвалася, што ўдзел у кангрэсе павінны прыняць каля 300-400 чалавек. Разважалася справа ўдзелу ў кангрэсе прадстаўнікоў БССР і беларускай эміграцыі на Захадзе.

Галоўнай мэтай такога „ўсенароднага сходу“ мелі быць усе найважнейшыя справы, звязаныя з матэрыяльным і духоўным жыццём беларусаў у Польшчы. Да такіх спраў тады залічылі мы:

— удзел беларускіх кандыдатаў у сеймавых выбарах,

— справы беларускага школьніцтва,

— акрэсленне перспектыў гаспадарчага статуса ўсходняй Беласточчыны і яе эмансіпацыя ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Польшчы,

— дапушчэнне беларускай мовы да рэгіянальнай адміністрацыі,

— супрацьстаўленне паланізацыі і дэфармацыі беларускіх назваў паасобных мясцовасцей,

— абарона прыроды і этыкі ўсходняй Беласточчыны,

— акрэсленне мадэлі і формулы польска-беларускіх адносін ва ўсходнім рэгіёне,

— прафілактыка асіміляцыі беларускага насельніцтва ўсходняй Польшчы,

— спроба прытармажэння паланізацыі тых беларусаў, якія перасяліліся з вёсак у гарады,

— спробы нацыянальнага ратавання беларусаў-каталікаў,

— выпрацоўка ўласцівых адносін паміж палякамі і беларусамі, праваслаўнымі і каталікамі,

— нацыянальная актывізацыя Праваслаўнай царквы ў Польшчы.

Было вядома, што правядзенне такога беспрэцэдэнтнага мерапрыемства немагчыма без „благаславенства“ партыі. Крыху прыхільнікаў ідэі кангрэсу знайшлося сярод высокапастаўленых партыйных чыноўнікаў. Аднак мы былі ўпэўнены, што супрацьставіцца ёй першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП У. Каладзеюк і таму не ведалі, як раскусіць гэты арэшак.

Як вядома, 1989 год быў выключна напружаны палітычна. „Круглы стол“ і выбары ў Сейм былі важнымі вызначнікамі гэтай напружанасці. Нашы спробы ўдзельнічаць у „круглым стале“ закончыліся няўдачай. Паражэннем закончылася і наша спроба правесці сваіх прадстаўнікоў у Сейм. Пазнейшыя падзеі перакрэслілі ідэю кангрэсу. У канцы студзеня 1990 г., у часе сустрэчы ў ГП БГКТ Янка Зенюк прыгадаў справу кангрэсу, як бы ўзбуджаючы яе да новага жыцця.

Здаецца мне, што сёння намнога больш спрыяльныя ўмовы для склікання кангрэсу, чым у 1989 годзе. На маю думку, спроба правядзення кангрэсу была б у 1989 годзе сустрэта як палітычная ерась як з боку партыі, так і з боку тагачасных адміністрацыйных улад. Мабыць, сёння ідэя гэта сустрэлася б з катэгарычным дыктатам супраціву з боку якой-небудзь палітычнай сілы. Хіба што ўсе палітычныя і адміністрацыйныя сілы здаюць сабе справу з пэўнай завешанасці, нявырашанасці, недавядзення да канца праблемы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Думаецца мне, што якраз кангрэс мог бы ўнесці многа яснасці ў статус беларусаў у новай Польшчы. Тое, што існавала на працягу сарака пяці гадоў, нягледзячы на тое, як яго ацэньваем, ужо аджыло свой век і болей не вернецца. Бадай што Молатаў сказаў, што „ў наш век усе дарогі вядуць да сацыялізму“. Памыліўся. Падзеі апошніх двух гадоў запярэчылі такой веры. Гарбачоў канчаткова абверг формулу Молатава і даказаў, што сацыялізм савецкага толку не мае перад сабой дарог і апынуўся ў тупіку. Беларусы з Польшчы мусяць з гэтага зрабіць вывады і, мабыць, найлепш гэта можна было б зрабіць на „ўсенародным сходзе“.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Вайна ў Персідскім заліве набліжаецца да канца.** Прэзідэнт ЗША **Джордж Буш** загадаў спыніць ваенныя дзеянні, калі Ірак згадзіўся выканаць усе дванаццаць рэзалюцый Савета Бяспекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**Патрэбны новы трактат паміж Польшчай і Савецкім Саюзам,** заявіў на пасяджэнні сеймавай Камісіі па замежных справах міністр **Кшыштоф Скубішэўскі.** Сцвердзіў ён, што перамены ў абедзвюх краінах патрабуюць перабудовы адносін паміж Польшчай і СССР і заснавання іх на прынцыпах добрага суседства, партнёрства і ўзаемнай карысці.

**Сем савецкіх рэспублік адмаўляецца правесці рэферэндум наконт будучыні Савецкага Саюза,** які прадбачваецца на 17 сакавіка г.г. Аб адмове заявілі: Эстонія, Латвія, Літва, Малдавія, Арменія, Грузія і Азербайджан.

**Дэмакраты падтрымоўваюць Ельцына.** Каля 150 тысяч людзей адгукнулася на заклік руху „Дэмакратычная Расія“ і прыйшло на плошчу каля Крамлёўскіх муроў, каб выказаць падтрымку правадыру Расіі Барысу Ельцыну.

**Варшаўскі дагавор будзе распушчаны.** У Будапешце адбылося пасяджэнне Палітычнага кансультатыўнага камітэта Дзяржаў-удзельніц Варшаўскага дагавора. Прымалі ў ім удзел міністры замежных спраў і абароны Балгарыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Румыніі, Венгрыі і СССР. Падпісалі яны заяву, у якой пастанаўляюць распусціць ваенныя органы ў тэрміне да 31 сакавіка г.г. Быў падпісаны таксама пратакол аб адмене ваенных пагадненняў, прынятых у рамках Варшаўскага дагавора, а таксама аб роспуску ваенных структур з днём 31 сакавіка. Вырашана, што чарговае пасяджэнне Палітычнага кансультатыўнага камітэта адбудзецца ў тэрміне да 1 ліпеня г.г. у Празе і тады вырашыцца далей лёс палітычных структур дагавора.

**Перагаворы на тэму будучыні Савета эканамічнай узаемадапамогі працягваюцца.** Планаваная сустрэча шэфаў дзяржаў былога ўсходняга блока ў Будапешце, на якой мела быць прынята рашэнне ад ліквідацыі СЭУ, адтэрмінавана.

**Пасля сямі месяцаў намаганняў зарэгістраваны Саюз палякаў на Беларусі.** Мэты арганізацыі — абарона правоў палякаў, пражываючых на Беларусі, культываванне культуры, мовы і захаванне сувязяў з Бацькаўшчынай.

**Прайшоў III з'езд прафсаюзаў „Салідарнасць“.** Новым старшынёю „ Салідарнасці“ выбраны **Мар'ян Кжаклеўскі.** Папярэдні старшыня, а зараз прэзідэнт Рэчыпаспалітай Польскай **Лех Валэнса** прыняў удзел у з'ездзе.

**У сувязі з планаваным візітам папы Яна Паўла II у Беласток** (5 чэрвеня г.г.), куратар асветы і выхавання накіраваў да дырэктараў школ ліст, у якім прапануе:

— пазнаёміць вучняў з постаццю папы Яна Паўла II,

— адпаведна прыбраць будынак школы і паасобныя класы,

— постаці папы прысвяціць не адзін урок рэлігіі і многія выхаваўчыя ўрокі,

— запрасіць моладзь да работы пры навядзенні парадкаў і да розных службаў у дзень візіту,

— прадумаць магчымасць адтэрмінаваць школьныя заняткі ў дзень візіту.

# Давайце рэдагаваць разам

Рэдакцыя беларускіх радыёперадач „Пад знакам Пагоні“ запрапанавала мне арганізаваць раз у тыдзень 15 хвілін для дзяцей. Справа выдалася мне настолькі цікавай і важнай для нашага асяроддзя, што ад такой нагоды адмовіцца не магла. Для нашых беларускіх дзяцей у Польшчы вельмі патрэбна роднае слова, сказанае ў поўны голас, упэўнена, „нават у радыё“. А з другога боку — вельмі важна, каб дзеці аслухоўваліся з літаратурнай мовай, каб зразумелі хараство нашай мовы, каб пераканаліся, што ўсё на ёй можна выказаць, кожнае пачуццё. Каб слухаць, не трэба ўмець чытаць. Могуць слухаць нас і малыя дзеці, і тыя, што беларускую мову не вывучаюць. Важна, каб дзіця, чым раней, тым лепш зразумела, кім ёсць, каб не саромілася сваёй мовы, каб хацела гаварыць на ёй і не мела комплексаў.

Усё сказанае можа здзейсніцца, калі перадачы для дзяцей будуць цікавымі, патрэбнымі.

Аднаму чалавеку гэта зрабіць непадсілу. Таму я звяртаюся да ўсіх нашых чытачоў: давайце рэдагаваць разам. Напішыце, што трэба, каб было ў перадачы, што найбольш любяць слухаць вашыя дзеці, якое ўражанне зрабіла на вас першая перадача, калі вы яе пачулі, і як рэагавалі на яе дзеці?

Першая радыёперадача выйшла ў эфір 6 сакавіка, у сераду, у сталы час для беларускіх радыёперадач у Беластоку, гэта значыць — раніцай у 8.30 і паўторана была вечарам — у 18.45. Так яно будзе і ў далейшым, калі слухачы перадачу для дзяцей падтрымаюць.

Мушу прызнацца, што праца з мікрафонам для мяне, газетнага журналіста, — справа новая. Не ўсё выйшла так, як хацелася б, але галоўнае, каб дзеці хацелі нас слухаць. Веру, што наша перадача можа быць вельмі прыдатна настаўнікам беларускай мовы, тым больш, калі ўдалося б уключыць перадачу проста на ўроку. Тады можна будзе, у нашым супольным рэдагаванні, расказваць і аб вашай школе, аб вашых дзецях. Дзеці маглі б выказвацца самі. Вельмі лічу ў гэтай працы на настаўнікаў.

Асаблівую ўвагу я хачу прысвяціць маленькім дзецям, абавязкова ў кожнай перадачы яны знойдуць для сябе вершык, казачку, можа і песеньку. Пакуль што чытаць іх буду я сама, але маю надзею, што ў будучым, калі слухачы падтрымаюць нашу перадачу, можна будзе запрасіць да чытання літаратурных твораў сапраўдных артыстаў. Вялікую надзею маю на тое, што дапамогуць нам музычнымі і літаратурнымі стужкамі ці пласцінкамі з дзіцячым рэпертуарам нашы сябры з Беларусі.

Фінансавую дапамогу першы абяцаў нам беластоцкі прадстаўнік гандлёвай фірмы „Сонполь“ Пятро Прыгічэпка. Спадзяемся, што будуць іншыя.

Слухайце нашу перадачу ў кожную сераду. Рабочая назва яе „Для школы і для дому“. Хацелася б, каб слухачы самі прыдумалі карацейшую і прыгажэйшую назву для сваёй перадачы. Вашы прапановы абмяркую на антэне.

Пішыце па адрасу:

Polskie Radio
Redakcja białoruska
ul. Świerkowa 1
15-328 Białystok

або ў рэдакцыю „Нівы“.

Спадзяемся на ўсіх чытачоў і слухачоў.

**Яніна Чэрнякевіч,**
да нядаўна — рэдактар „Зоркі“.




## „СПРАВА ЯНОВІЧА...“

Алесь Барскі ў фельетоне з цыклу „На мяжы“, апублікаваным у „Ніве“ ад 17 лютага, нагадаў пра палітычныя рэпрэсіі супроць мяне ў мінулым, бачачы прычыну іх у маёй контррэвалюцыйнасці. У сувязі з гэтым лічу, што павінен я ўзяць голас дзеля некаторай яснасці няяснага. Сказаць пра тое, пра што напэўна мне вядома, адкідаючы здогады.

Ажно так узнёслай прычыны, як контррэвалюцыйнасць, у „справе Яновіча“ не было. Напісаў на мяне, звычайна, даўжэзны данос Аляксандр Амільяновіч, беластоцкі літаратар і былы журналіст „Нівы“. Адрасаваў ён пасланне ў Ваяводскую Камісію Партыйнага кантролю, бо быў я членам Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі. Зрабіў гэта, зусім не таячыся, а нават — са злоснай радасцю — папярэдзіўшы мяне досыць адназначным намёкам... Неяк увесну 1970 г.

Чаму заеўся Амільяновіч? Ён даведаўся ад гродзенскага пісьменніка Аляксея Карпюка, з якім сябраваў у той час моцна, што я, будучы ў Гродне летам шэсцьдзесят дзевятага, перасцерагаў быць адкрытым у гутарках менавіта з Аляксандрам Амільяновічам як колішнім афіцэрам УБ. Знайсці яму для помсты абвінавачваўчы матэрыял супроць мяне не было так вельмі і цяжка; паслужыўся маім пісьмом Карпюку, у якім выказваў я сваё абурэнне хвальбою ветэранаў Савецкай Арміі, як у вайну гвалцілі яны немак і падпальвалі нямецкія будынкі пасля пераходу фронту. Дадаў Амільяновіч і страшныя чуткі пра мяне, апісаўшы іх на больш дзесяці машынапісных старонках (напрыклад, у акупацыю я, казалі людзі, сімпатызаваў эсэсаўцам). Тэкст гэты афіцыйна давалі мне чытаць у час допытаў, якія вёў Мікалай Кірылюк, старшыня тае Камісіі. Калі я рагатаў над абсурдам падобных закідаў (было мне раптам шэсць гадкоў, як хадзілі тыя з СС!), Кірылюк моршчыўся і гаварыў нешта ў тым сэнсе, што не бывае дыму без агню... І палохаў яшчэ крымінальным працэсам! Усю справу вырашыў у маю некарысць, аднак жа, той ліст Карпюку, тыя няшчасныя гвалты (якія сёння нават у маскоўскіх спектаклях паказваюць!). Я ледзь не плакаў, калі забіралі ў мяне партыйную легітымацыю (канец верасня 1970 г.). Быў блізкі шоку, вярнуўшыся з Кірылюковага суда ў рэдакцыю „Нівы“, дзе ўжо, аказалася, чакала мяне Рагаля, кіраўніца персанальнага аддзела, каб уручыць цераз майго шэфа Валкавыцкага звальненне з работы. Потым праходзілі панурыя сходы, і

**(Працяг на стар. 5)**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

*Беласток. Вул. Млыновая. Малюнак У. Петрука.*




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 35 —

Антыпольская палітыка ўрада Ластоўскага была выкарыстана і фінансавана немцамі, савецкім і літоўскім урадамі. Польскія ўлады не прызналі як афіцыйныя органы ані Найвышэйшай Рады, ані Рады эсэраўска-камуністычнай.

Найвышэйшая Рада дзейнічала, аднак, і імкнулася да федэрацыі з Польшчай. Найвышэйшая Рада як цэласць увайшла ў склад „Часовага беларускага народнага камітэта“ ў Мінску, старшынёй якога быў Тарэшчанка. Камітэт займаўся галоўным чынам беларускім школьніцтвам, эканамічнымі праблемамі, Таварыствам мастацкіх штук, і іншымі. „Народна-арганізацыйныя і культурныя“ інструктары, высыланыя камітэтам на правінцыю, часта былі эсэраўска-камуністычнымі агентамі і ў такім духу вялі дзейнасць.

Часовы беларускі народны камітэт стварыў Беларускую школьную раду, якая да ліпеня 1920 года, гэта значыць да адыходу польскай арміі, паспела адкрыць легальным шляхам 233 беларускія пачатковыя школы з 12000 вучнямі. Асветныя дзеянні сталіся пры падтрымцы з боку польскага ўраду, які супольна з уладамі Акруговага Мінскага школьнага інспектарата выдзяляў для школ неабходныя сумы.

У гэтым часе распачалося адступленне польскай арміі. Пасля адыходу польскага войска з Мінска, Найвышэйшая Рада развалілася. Адна яе частка з Уласавым, Дубейкаўскім, Рак-Міхайлоўскім і Тарэшчанкам пераехала ў Варшаву, дзе яе прызналі польскія ўлады. Старшыня Найвышэйшай Рады Серада і Лёсік засталіся ў Мінску. Пасля заключэння Рыжскага трактата Рак-Міхайлоўскі і Тарэшчанка пераехалі ў Вільню і ўвайшлі ў склад Беларускага Народнага Камітэта. У канцы Тарэшчанка і Смоліч пераехалі ў Мінск і пачалі супрацоўнічаць з савецкім урадам.

У 1920 годзе была апублікавана брашура Луцкевіча па-польску і па-беларуску п.з. „Польская акупацыя на Беларусі“. З увагі на змест эфектна распаўсюджвалася яна на Гродзеншчыне і Віленшчыне, выклікаючы сярод беларускага сялянства вялікае ўражанне. Выкарыстоўвалі гэтыя брашуры кадры беларускіх настаўнікаў, праводзячы эсэраўскую агітацыю і пашыраючы ўплывы эсэраў.

Дзякуючы гэтай акцыі быў падрыхтаваны грунт пад беларускія выступленні ў часе адступлення польскай арміі. Дзесятага ліпеня 1920 года бальшавіцкія войскі занялі Мінск. На адступаючыя польскія падраздзяленні няраз нападалі цэлыя вёскі, забіваючы жаўнераў. Помсцячы, польскія войскі праводзілі карныя экспедыцыі, у выніку якіх у польска-беларускія адносіны ўрываліся ўсё большыя непаразуменні і нянавісць. Такім чынам наступіла змена настрояў сярод беларускага насельніцтва. Насельніцтва, якое спачатку, даведзенае да энтузіязму адозвай Галоўнакамандуючага, мроіла аб уз'яднанні Віцебска, Магілёва, Смаленска пад польскай уладай, на канец забівала адступаючыя польскія падраздзяленні.

*(Працяг будзе)*

## ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ 1990

**(Працяг са стар. 3)**

на дармовыя праезды ў самім горадзе. Спартыўна-рэкрэацыйны цэнтр у Рыбаках запэўніў дзецям побыт і ежу. Галоўная арганізатарка акцыі ў Гайнаўцы Ірэна Парфянюк, калі я звярнуўся да яе за інфармацыяй, рупліва прадыктавала мне нават прозвішчы людзей, у якіх дзеці жылі. Прашу ў гэтым месцы выбачэння як у спадарыні Парфянюк, так і ва ўсіх людзей, якія далі дзецям кватэры. Я не ў змозе прывесці тут поўны спісак тых, якія трымалі дзяцей у сябе на кватэрах. Не крыўдуйце! Скажу толькі, што гайнаўскія людзі да таго зжыліся са сваімі гасцямі, што на развітанне ў адных і другіх у вачах стаялі слёзы.

У жніўні трапілася яшчэ адна невялікая група, якая блукалася недзе ў Польшчы ды не магла знайсці сабе прытулку. Айцец Аляксандр Хіліманюк прывёз яе ў парафію на Выгодзе. У групе было 15 дзяцей, а ў парафію з'явілася каля 80 сем'яў. Кожная сям'я хацела абавязкова ўзяць да сябе прынамсі адно дзіця. Як айцу Хіліманюку ўдалося палагодзіць гэтую справу, я не запытваўся.

Тое, што мела спрычыніць каардынатару Краёвай управы БДА боль галавы, было яшчэ перад ім. І, вядома, наступіла. У пятніцу 24 жніўня 1990 а гадзіне 1-ай ночы пазваніў да Віктара Стахвюка Алесь Галькевіч і паведаміў, што праз два дні прыедуць у Беласток тры аўтобусы дзяцей — усяго 103 асобы. Жах і паніка — гэта занадта слабыя словы, каб перадаць тое, што адбылося ў ягонай галаве. Жарты скончыліся. Віктар закурыў папяросу. Недзе а гадзіне 2-ой гэтай самай ночы ён падняў на ногі дырэктара Беластоцкага радыё Ежы Мушынскага і насветліў яму справу. Дамовіліся, што, пачынаючы ад 6-ай раніцы, кожную гадзіну радыё будзе перадаваць адпаведнае камюнікэ. Хай кожны, хто зможа даць дзецям кватэру, тэлефанічна звяртаецца на прыватны нумар Віктара Стахвюка. Каля апарата прысела ягоная жонка Альжбета. „Ало! Гэта камітэт Дзеці Чарнобыля?“ „Не, гэта прыватная кватэра, але вы добра трапілі“. Ясна было, што беларуская грамадскасць Беласточчыны не зможа так хутка забяспечыць адпаведныя колькасць дзяцей. З інспірацыі Ежы Мушынскага вырашылі звярнуцца да каталіцкай грамады. У нядзелю было развезена ва ўсе касцёлы Беластока адмысловае камюнікэ. Людзі зноў не падвялі. Удалося знайсці адпаведную колькасць кватэраў, хоць гэтым разам праца агітатараў была непараўнальная з усім тым, што даводзілася ім рабіць дагэтуль. У будынку ГП БГКТ быў наладжаны спектакль тэатра лялек з Гародні — горача ўспрыняты дзеткамі. Ваяводская бібліятэка наладзіла вечарыну з гульнямі і пачастункам. Адбылася экскурсія ў Белавежу — гарадская камунікацыя дала бясплатна тры аўтобусы. Экскурсію вёў доктар тэхнічных навук Уладзімір Карнілюк (сёння сябра Краёвай управы БДА). У арганізацыю побыту ўключыліся беларускія бізнесмены Беластока (між іншым, Пятро Прышчэпка і Ян Маеўскі). Айцец Хіліманюк сабраў і падарыў дзецям звыш двух мільёнаў злотых. Беларускае аб'яднанне студэнтаў уручыла кожнаму дзіцяці беларускі маліто̆ўнік ды кніжнае выданне гісторыі Беларусі. Дзякуючы працёртаму айцом Хіліманюком шляху зноў удалося

# ПАЧУТАЕ Ў ЭФІРЫ

16 лютага ў Салігорску мелася адбыцца канферэнцыя Рабочага саюза Беларусі. Нягледзячы на тое, што месца і час на правядзенне былі загадзя замоўленыя і аплачаныя, прадстаўнікоў рабочых камітэтаў ля арандаванага памяшкання сустрэла міліцыя і не пусціла іх туды. Вартавыя парадку пагражалі прымяніць супраць дэлегатаў сілу. Давялося праводзіць канферэнцыю на гарадской плошчы. Дарэчы, прадстаўнікі салігорскага страйковага камітэта абвясцілі аб уваходзе гэтай арганізацыі ў незалежны прафсаюз гарнякоў. 20 лютага Салігорскаму аддзяленню Рабочага саюза Беларусі адмоўлена ў рэгістрацыі ў тамашнім выканкоме.

* * *

20 студзеня на сесіі Вярхоўнага Савета БССР старшыня аднаго з калгасаў дэпутат Н.М. Канюшык наваліўся на намесніка старшыні парламента Станіслава Шушкевіча за яго „выхадку". Шушкевіч некалькімі днямі раней адным з першых пакінуў было залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, калі камуністычная большасць не хацела прымаць палажэння аб скасаванні падаткаў на прыбытак з беларускамоўных кніг і брашур. Назваўшы тыя паводзіны Шушкевіча вялікай палітычнай памылкай, дэпутат Канюшык прыгадаў яму адначасова колішнія вялікія палітычныя памылкі і спытаў: „Хто вы на самай справе, на чый млын вы льеце ваду? Прапаную вам прасіць прабачэння". Станіслаў Шушкевіч слухаў і адно ўсміхаўся.

*(З паведамленняў радыёстанцыі „Свабода")*

# СВЯТЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

## СВЯТЫ БЛАГАВЕРНЫ РАСЦІСЛАЎ (МІХАІЛ), КНЯЗЬ СМАЛЕНСКІ І КІЕЎСКІ

**Князь Расціслаў быў трэцім сынам князя Мсціслава, унукам Уладзіміра Манамаха. Невядома, у якім годзе нарадзіўся ўладар Смаленска і Кіева. Мабыць, было гэта недзе ў пачатку XII стагоддзя. Вось тады Уладзімір Манамах заняў Смаленск (1116 г.) і далучыў да яго Оршу і Копысь. Пасля смерці Манамаха, смаленскім князем стаў ягоны ўнук Расціслаў. Княжанне Расціслава ў Смаленску пачалося перад 1127 годам.**

**Князь Расціслаў быў выдатным палітыкам і царкоўным дзеячом. Думаў пра стварэнне незалежнага ад Кіева Смаленскага княства. Рэалізуючы гэту мэту, князь Расціслаў давёў да стварэння смаленскай епархіі. У 1150 годзе мясцоваму ўладыку надаў дзесяціну „от всех даней смоленских".**

**Апрача таго, епіскап смаленскі атрымаў „село Дросенское и село Ясенское с бортником". Жыхароў гэтых вёсак Расціслаў Мсціславіч падпарадкаваў выключна царкоўнаму суду. Смаленскі князь быў таксама фундатарам многіх цэркваў і манастыроў. За адданасць Праваслаўнай Царкве ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам у яе духоўных і вернікаў. Усе паважалі князя Расціслава як добрага свецкага ўладара, а перад усім як фундатара і апекуна Царквы Хрыстовай.**

**Пасля смерці Ізяслава Давідавіча, князя чарнігаўскага, які ўладарыў таксама ў Кіеве (1157-1158), жыхары гэтага горада паклікалі на вялікакняжацкі трон Расціслава Мсціславіча. Ён прыбыў у Кіеў у пачатку 1159 года, астаўляючы ў Смаленску свайго сына Рамана (1159-1180). Новы князь кіеўскі дбаў пра развіццё сваёй дзяржавы. Княжацкія каштоўнасці раздаў бедным і сіротам. Сабе аставіў толькі крыж. Гэты ўчынак выклікаў прыхільнасць мясцовага праваслаўнага духавенства. Князь Расціслаў часта запрашаў на суботнія сустрэчы прападобнага Палікарпа, архімандрыта Кіева-Пячэрскай лаўры, і другіх манахаў. Вялікае ўражанне зрабілі на ім гутаркі на тэму збаўлення душы. У часе адной такой сустрэчы Расціслаў Мсціславіч пастанавіў прыняць манашаства. Аднак, прападобны Палікарп адказаў яму: „Вам, князь, Бог велит управлять". Бачыўшы, аднак, адданасць князя Царкве, дадаў ён: „Хай будзе воля Божая". Архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры наказаў сваім манахам падрыхтаваць для князя Расціслава келлю. Аднак дзяржаўныя абавязкі прымусілі князя паехаць апошні раз у Смаленск. Там ён цяжка захварэў і захацеў вярнуцца ў Кіеў, каб здзейсніць сваю пастанову і ўступіць у манастыр. У паваротнай дарозе, бачачы сваю смерць, паклікаў свайго духоўніка і сказаў яму: „Ты адкажаш перад Богам, што не даў мне стаць манахам у Пячэрскім манастыры (...). Я гэтага вельмі хацеў і хай прабачыць мне Гасподзь, што я не выканаў гэтага". Пасля паглядзеў ён на святыя іконы і памёр (у 1168 годзе). Цела яго, згодна з яго апошняй воляй, перавезена ў Феадораўскі манастыр, заложаны бацькам Расціслава, святым Мсціславам. Там зложаны былі астанкі бацькі і сына — абодвух святых благаверных князёў.**

**Усё жыццё благаверны князь Расціслаў жыў згодна з царкоўнымі правіламі. У сваёй свецкай дзейнасці ён кіраваўся інтарэсамі Праваслаўнай Царквы. Быў ёй верны, як і ўсяму народу. Яго жыццё і дзейнасць, нятленнасць цела, прычынілася да канізацыі. Праваслаўная Царква вызначыла дзень памяці святога благавернага князя Расціслава на 14 сакавіка.**

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**






(Працяг са стар. 4)

партыйныя і актыву БГКТ, у Беластоку і па-за Беластокам, на якіх камітэцкія ды грамадскія дзеячы ўсяляк ганьбілі Сакрата Яновіча (і бацькоў, і цётак цкавалі на мяне, дурні). Разумею такія выступленні з боку Янкі Зенюка, тадышняга сакратара ГП БГКТ, ці Юрыя Валкавыцкага. У тых умовах яны абаранялі гэтым не толькі свае пасады, але і фірмы, якімі кіравалі. Не разумею і не прабачаю іншым, якіх нішто не прымушала пляваць у мой бок (акрамя лайдацкай надзеі на чарговыя медалі і ордэны).

Ці быў для мяне ратунак? Быў, і то гарантаваны: даволі было пагадзіцца на сакрэтнае супрацоўніцтва са Службаю Бяспекі.

Без работы застаўся я, праўду кажучы, па сённяшні дзень (цяпер, пад старасць, і не шукаю яе). Праз усе сямідзесятыя гады не давалі мне акуратнай работы, швэндаўся ад занятку да занятку ў нейкіх складах (Майсеня тайна прапанаваў заробак пры разгрузцы дошак), у паўбандыцкіх арцелях-спулдзельнях, у дамах нібы-культуры з начальніцкімі курвягамі. Аж праз дзесяць гадоў пасля назад прыбіўся да „Нівы", ухапіўшыся ў салідарніцы 1980 год за дробны паўштат тэхнічнага рэдактара яе, які ў восемдзесят сёмым узялі і ліквідавалі. Больш не стараўся, закончыўшы універсітэт і выдаўшы трохі кніжак. Так і канчаю жыць.

**Сакрат Яновіч**

P.S. За мной вялі палітычны нагляд у розныя перыяды: Мечыслаў Гут, Уладзіслаў Залескі, і д-р Гнатоўскі з Ваяводскага Камітэта ПАРП, ну, і той жа неадступны Мікалай Куц з Ваяводскай Управы Унутраных Спраў, а са Службы Бяспекі — праводзіў рэвізіі ў маёй кватэры капітан Здзіслаў Васілеўскі са сваёй камандай маладых паручнікаў; цягалі мяне, жонку, сыноў на паліцэйскія допыты ў камендатуру на вул. Сянкевіча ў Беластоку. Шантажавалі. Гаворачы іхным жаргонам, усё шылі мне палітычную справу, прыдатную на сапраўдны і шумны суд. З перспектывы гадоў сам здзіўляюся, колькі людзей тады хацела нейк „зарабіць" на гэтым маім інцыдэнце, не кажучы ўжо пра ўсялякіх ліпучых „іксаў" (тэрмін Барскага). Такія былі часы, такая эпоха.

Часамі бачу іх, ціхіх пенсіянераў з унукамі на шпацыры ў парку, з тварамі, на якіх ані следу згрызоты ад нячыстага сумлення. Яны так і пражылі жыццё, круцячыся вакол свайго зада.

**С. Я.**

аформіць дармовыя праезды па Беластоку. Цяжар штодзённых заняткаў з дзеткамі ўзялі на сябе працаўніцы Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Трэба ўрэшце адзначыць, што надзвычай многа энергіі ўлажыў у арганізацыю групаў на Беларусі і інспекцыю ў Польшчы доктар Алесь Галькевіч. Пачала надыходзіць дапамога ад беларусаў з Захаду (між іншым, Лявон Шыманец, Францыя — 100 дол.).

18 снежня 1990 года айцец Аляксандр Хіліманюк атрымаў, як сцвярджаецца ў дыпломе, „за арганізацыю дапамогі дзецям Чарнобыля" ордэн брата Альберта. Да 1990 года Фундацыя брата Альберта ўзнагароджвала толькі дыпломам і толькі за выдатныя дасягненні ў сакральным мастацтве. У 1990 годзе ўпершыню быў устаноўлены ордэн, а катэгорыі яго прызнавання пашыраны, агульна кажучы, да актаў міласэрнасці. Гэтага дня, на Каралеўскім замку ў Варшаве, фундацыя ўзнагародзіла 5 асоб. Толькі айцец Аляксандр Хіліманюк атрымаў ордэн у гэтай новай катэгорыі. Колькі слоў пра самога айца Хіліманюка. З'яўляецца ён настаяцелем парафіі Усіх Святых у беластоцкім квартале Выгода ды часовым настаяцелем парафіі Мудрасці Божай. Ад імя епіскапа Савы наглядае за ўсімі сакральнымі пабудовамі ў Беластоцка-гданьскай епархіі. З'яўляецца таксама візітатарам катэхетычных пунктаў ды духоўным апекуном Праваслаўнага брацтва.

30 ліпеня 1990 года ўзнік у Беластоку Агульнапольскі камітэт „Дзеці Чарнобыля". Старшынёю камітэта стаў сенатар Анджэй Каліцінскі, яго намеснікамі — дырэктар Беластоцкага радыё Ежы Мушынскі і каардынатар Краёвай управы БДА Віктар Стахвюк. У камітэт увайшлі таксама прадстаўнікі БГКТ, БДА і каталіцкай ды праваслаўнай грамадаў. Ганаровы патранат над камітэтам узяў маршалак Сената Рэчыпаспалітай Анджэй Стэльмахоўскі. Ідэя, якую ў чэрвені прадставіў Сакрату Яновічу Генадзь Грушавы, ажыццявілася.

Цяпер, калі завяршаю ўжо мой асабісты дослед гэтай справы, прыгадваецца мне той перыяд, у які вялася ў Польшчы падрыхтоўка да перамоваў за „круглым сталом", якія мелі стацца пераломам у грамадска-палітычным жыцці краіны. Больш ці менш адкрыта дыскутавалася тады, на якія ногі гэты стол паставіць. Практыка падказвае, што адвольнай ідэі неабходна і дастаткова трох ног, каб выстаяць у любых варунках. Акцыя дапамогі дзецям з чарнобыльскай зоны мела гэтыя тры неабходныя і дастатковыя падставы: Праваслаўная Царква, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, БНФ „Адраджэнне".

Апошняя рэфлексія. Уся дапамога дзецям з чарнобыльскай зоны абапіраецца на людзях добрай волі ды на добраахвотных матэрыяльных ахвяраваннях. Справу трэба паставіць ясна. Гэткім чынам можна сама больш запэўніць гэтым дзецям годныя варункі смерці. Пішу гэтыя словы 22 лютага 1991 — гэта, бадай, 37 дзень вайны ў Персідскім заліве, вайны, якая кожны дзень паглынае мільярды долараў, енаў, марак, фунтаў, ліраў, франкаў... Не месца тут, каб ацэньваць, ці гэтая вайна брудная, ці, мабыць, у імя правоў чалавека. Нельга, аднак, не заўважыць, што за кошт 2-3 дзён гэтай вайны можна ўвогуле ліквідаваць само чарнобыльскае пытанне. Пакуль што Чарнобыль для заходніх краінаў з'яўляецца дасканалым даследавальным палігонам. Я адчуваю жаль да цывілізаванага свету за ягоную злачынную абыякавасць да няшчасця мае нацыі.

**Аляксандр Максімюк**

Фота аўтара і Яна Максімюка.

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '91“




ФОТАРЭПАРТАЖ Я. МАКСІМЮКА



*Харысты беластоцкага аддзела БГКТ (1-е месца ў катэгорыі сучаснай песні).*



*Аня Богус і Марыся Вярбіцкая (2-е месца сярод дуэтаў).*



*Беластоцкая публіка.*



*Адам Жарначук з Рыбалаў (1-е месца сярод салістаў у катэгорыі сучаснай песні).*

ляй

Таня вельмі цэніць гэту ролю, бо яе жыццёвае крэда гэта заўсёды заставацца сабою. Прыклад такой сілы і веры ў чалавека, сцвярджае яна, дала ёй маці.

Слухаю і баюся за сябе, каб не спалохаць Таніну думку нейкім недарэчлівым у гэты момант, бабскім пытаннем. І раптам Таня пачынае сама:

— А ведаеш, аднойчы я не вытрымала. Трэба было ехаць на фестываль у Маскву. А ў мяне на нозе — нічога. Набралася я адвагі і іду ў гарком. І проста да сакратара. Таварыш сакратар, кажу, вось мне трэба ехаць, а ў мяне туфлёў няма! І як жа ж я буду Беларусь прадстаўляць? Памажыце! А сакратар засланіў вочы рукою ды кажа: „Божа! Да чаго ж мы дакаціліся...“ Але што мог, тое памог, хаця і ім нялёгка было прабіцца праз гандлёвую мафію...

Ужо амаль сем гадоў Таццяна Мархель вядзе ў Рэспубліканскім тэлебачанні перадачу „Запрашаем на вячоркі“. З усіх канцоў Беларусі запрашаюцца фальклорныя калектывы. Цікавейшыя людзі, гаворыць артыстка, у кожным складзе! Для мяне гэта як напіцца свежай вады. Дзе яшчэ я сустрэну такіх людзей? За тыя дзве-тры гадзіны ў тэлевізіі (запіс ідзе нажыва, без рэпетыцый, спантанна) гэтыя людзі становяцца мне вельмі блізкімі і роднымі. Каб весці гэтую перадачу, Таццяна мусіла раз у месяц звальняцца ад спектакля ці здымкаў у кіно.

А ў фільмах здымалася шмат. Грала ў фільме паводле „Новай зямлі“ Якуба Коласа, у шматсерыйным фільме паводле „Людзей на балоце“ Івана Мележа, там даручылі ёй ролю Дамеціхі, а апрача таго музычнае афармленне фільма беларускімі народнымі песнямі.

Былі і іншыя фільмы, у чым мы маглі пераканацца навочна ў канцы мінулага года на фестывалі беларускага фільма ў Беластоку.

Т. Мархель вельмі цэніць сабе тэлевізійны фільм „Вячэра“. Гэта монафільм. Здымалася адна. У ролі жанчыны, якая выхавала многа дзяцей, але засталася ў вёсцы адзінокая, бо дзеці раз'ехаліся. І вось на працягу гадзіны гераіня фільма вячэрае не з блізкімі, а са сваёй гаспадаркай — кароўкай, свіннёй, коцікам, курамі — і ім расказвае пра сваё жыццё, пра маладосць і каханне. Аўтарам гэтай п'есы быў Яўген Шабан і была гэта дыпломная работа рэжысёра Надзеі Рыбаконь.

Усё слухаю Таццяну і пералічваю ў думках мінуты яе радасці. Быў яшчэ вялікі спеў — Таццяна Мархель спявала ў Маскве, у зале Пятра Чайкоўскага сімфонію Алега Янчанкі „Белая вежа“. Гэта сімфонія для аргана, часткі сімфанічнага аркестра, аркестра народных інструментаў і народнага голасу. Прэм'ера адбылася ў 1982 годзе. Пазней у якасці салісткі выступіла з гэтым творам у філармоніі ў Мінску.

Многа было здзяйсненняў у творчым жыцці Таццяны Мархель. У 1982 годзе яна стала таксама гераіняй музычнага фільма „І мацярынскі чуецца напеў“. Гэта быў фільм пра яе — з яе песнямі, з яе маці і дзецьмі, усімі трыма дочкамі.

...Таня пахіляецца над нашай маленькай, якая падрыхтавалася да сну, і дзіця, застыўшы ў бязруху і ўтаропіўшы свае вялікія блакітныя вочы ў Таццяну, слухае, як тая спявае ёй:

*Гушкі, гушкі, прыляцелі птушкі,*
*Селі на варотах у чырвоных ботах.*
*Пайшоў коця па плоця*
*У шэранькай капоця,*
*Памарозіў лапкі,*
*Палез на палаткі.*
*Сталі лапкі грэцца*
*Недзе катку дзецца...*

— Мо запісаць варта? Як ты думаеш? Вось што мне ў вас тут падабаецца: паважаюць дзяцей. Не гыркаюць да іх, адносяцца з пашанай. Думаю я пра вашых: як не цяжка ім жыць не сярод сваіх, адчуваецца тут нейкая еднасць. Менавіта цяпер я пераканалася: замала я яшчэ рабіла...

**Ада Чачуга**

P.S. Каб быць „бліжэй мастацтва“, зрэшты, услед за былым рэжысёрам тэатра Якуба Коласа Валерыем Мазынскім, які меў стварыць у Мінску тэатр беларускай нацыянальнай драматургіі, Таццяна Мархель пераехала ў Мінск. Працуе ад зімы ў тэатры кінаакцёра.

— Ой, Божа мой, што ж гэта такое, я гавару па-руску, — ні то з жахам, ні то з недаверам да сябе самой спахапілася Таня, калі мы сустрэліся ў снежні мінулага года ў Мінску, у клубе работнікаў мастацтваў.

І мне падумалася: хто ведае, можа тут яна страціла тое, што мела ў Віцебску найбольш каштоўнага. **А. Ч.**

## „СОН-ПОЛЬ ДЛЯ ДАМАЎ

**Прадпрыемства заграні́чнага гандлю „Сон-поль“ арганізавала ў Драматычным тэатры імя Ал. Вянгеркі ў Беластоку паказ цырульніцкага майстэрства і касметыкі. Перад публікай сваім мастацтвам выказаліся тры беластачанкі — Альжбета Богдан, Вяслава Плонская і Дарота Аўгусевіч, а таксама цырульнікі з варшаўскага салона красы фірмы „Сон-поль“. Натуршчыцы былі беластоцкія, як заўсёды — найпрыгажэйшыя, як кажа кіраўнік гуртоўні „Сон-поль“ у Беластоку, Пётр Прышчэпка.**

**Сярод публікі найбольш было спецыялістаў-цырульнікаў, але шмат было і моладзі, якую вельмі зацікавіў агляд касметыкі прадукцыі фірмаў „Вэла“ і „Сон-поль“. Аб навінках у касметыцы і самых модных прычосках інфармавала Барбара Фабіняк з Варшавы.**

**А што цяпер наймаднейшае на галаве дамы? Вяртаюцца некаторыя плыні прычосак з шасцідзесятых гадоў. Папулярныя цяпер кокі да гладка зачэсаных доўгіх валасоў, часам з невялічкай грыўкай. Вярнуўся начос (тапіраванне). Няма ўжо парчы на валасах, бліскучак. Модныя — шырокія павязкі. Вядома — на чыстых, натуральных, здаровых валасах, усё з дапамогай добрай фарбы, умацавальных сродкаў, бальзамаў, пенак, жэляў, спецыяльнага воску...**

**Фірма „Сон-поль“ запрашае на свой наступны паказ у лістападзе г.г., на якім дэманстраваць сваё ўмельства будуць майстры з Францыі, Германіі і Англіі.** (лук)

**Фота К. Янікоўскага**



## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

### 16. Часціцы.[1]

Часціцы выражаюць дадатковыя сэнсавыя, мадальныя і эмацыянальныя адценні слоў, словазлучэнняў і сказаў.

Часціцы — гэта нязменныя словы, якія не маюць намінатыўнай функцыі (не называюць прадметаў, прымет, дзеянняў) і сінтаксічнай функцыі (не з'яўляюцца членамі сказа). Толькі ў дыялогу некаторыя з іх (*ага, але, не, няўжо, так*) выступаюць у ролі слоў-сказаў: *„Розныя людзі ёсць і між польскіх салдат“, — уставіў Нупрэй факт. — „Так“, — згадзіўся дзед Талаш.* (К-с).

Паводле значэння часціцы падзяляюцца на: *сэнсавыя, мадальныя, эмацыянальныя, словаўтваральныя і формаўтваральныя.*

*Сэнсавыя часціцы* надаюць словам, словазлучэнням і сказам дадатковыя сэнсавыя адценні. Адносяцца да іх часціцы:

— *указальныя,* якія паказваюць на наяўнасць прадметаў ці з'яў рэчаіснасці і на іх ступень аддзялення: *вось (ось, во, вот, от), вунь (унь), гэта — Глядзіце, во прасторы! Во нівы, лясы, палі! Усё гэта наша!..* (Ц.),

— *азначальна-ўдакладняльныя,* якія ўдакладняюць значэнне слоў, перад якімі стаяць: *амаль, менавіта проста, роўна, якраз — Быў якраз пачатак мая. Ну й была тады вясна!* (К-с),

— *выдзяляльна-абмежавальныя* якія выдзяляюць з агульнага выказвання пэўныя словы і надаюць ім абмежавальнае значэнне: *толькі, абы толькі, хіба толькі, хоць, хоць бы, ледзь — Прыслухаешся: рана, ледзь чуваць шуміць вада на грэблі пад мастом.* (М.Т.).

*Мадальныя часціцы* надаюць выказванню розныя мадальныя адценні: сцвярджэнне, адмаўленне, пытанне, меркаванне, пажаданне, пабуджэнне... Выдзяляюцца сярод іх часціцы: *сцвярджальныя, адмоўныя, пытальныя, параўнальныя, пабуджальныя.*

*Сцвярджальныя* абазначаюць згоду з думкай таго, хто гаворыць: *так, але, ага — „Не машына, а — звер!.. А матор як працуе — чуеш?“ — „Але“, — кажу я...* (Скр.),

*Адмоўныя часціцы: не, ні.*

Часціца *не* — галоўны сродак адмаўлення ў беларускай мове. Можа выражаць адмаўленне прадмета, прыметы, з'явы, але найчасцей адмаўляе нейкае дзеянне, гэта значыць, што можа спалучацца з рознымі часцінамі мовы, але найчасцей спалучаецца з дзеясловамі. Выкарыстоўваецца ў адмоўных сказах: *На вакзале гоман не змаўкае, не гаснуць там ніколі ліхтары.* (Гл.) і пры супрацьпастаўленні. *Гэта была не хата, а хатка, як з казкі — на курыных ножках.* (Пестр.)

Часціца *не* можа мець сцвярджальнае значэнне, калі:

— ужываецца з пытальнымі займеннікамі, прыслоўямі, часціцамі. *Ці ж, хлопцы, рук не маем? Ці ж нам сілы бог не даў?* (К-с.),

— спалучаецца са словамі *нельга, немагчыма: Не верыць ім нельга.* (Шам.):

— спалучаецца з прыназоўнікам *без: прачытаў кнігу не без карысці* (з карысцю),

— спалучаецца з інфінітывам: *Не зглядзець тых абшараў.* (Куп.),

— паўтараецца ў сказе ў складаным дзеяслоўным выказніку двойчы: *Я не магу не сказаць вам праўды.* (К-с.)

Часціца *ні* ўжываецца для ўзмацнення адмаўлення:

— у сказах з адмоўем *не* ці словамі *няма, нельга, немагчыма: На вуліцы ні душы не было.* (Сам.),

— пры пералічэнні аднародных членаў сказа: *Над ракой усплывае туман, набліжаецца стомлена ціша, і ні слёз, ні тугі, ні паданняў няма — ноч у казках сваіх закалыша.* (Гл.),

— у пабуджальных сказах з загаднай інтанацыяй: *Толькі ўперад і ўперад, ні кроку назад!* (А.К.),

„Часціца *ні* можа мець сцвярджальнае значэнне з адценнем узмацнення, ужываецца пасля займеннікаў, займеннікавых прыслоўяў: *Дзе б я ні быў, што б ні рабіў, — на поўначы, на ўсходзе, — край. дзе радзіўся, дзе любіў, з вачэй маіх не сходзіць.* (Ал.)...

Часціца *ні* ўжываецца ва ўстойлівых зваротах са значэннем няпэўнасці, узмацнення: *ні рыба ні мяса, ні даць ні ўзяць, ні жывы ні мёртвы, ні свет ні зара, ні прайсці ні праехаць, ні ўзад ні ўперад* і інш.“[2]

---

[1] Літаратура: Я. М. Адамовіч, Часціцы, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф. М. Янкоўскага. Мінск 1980, с. 222-229;
Беларуская мова пад рэд. А. М. Клачко, ч. I Мінск 1982, с. 311-321.

[2] Я. М. Адамовіч, там жа, с. 226-227.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, маё жыццё з мужам ніколі не выглядала занадта добра. Здаецца, было каханне, але жыцця не было. Адыйшоў да сваёй мамы, калі першаму дзіцяці было чатыры месяцы. Я засталася з дзіцём у бацькоў. Праз некалькі месяцаў вярнуўся — але толькі дзеля таго, каб зрабіць другое дзіця. І зноў паехаў. Праз пару месяцаў я сцвердзіла, што зноў цяжарная. Калі ён прыехаў наведаць мяне, я сказала яму аб гэтым. Тады забраў мяне з дзіцём да маці ў суседнюю вёску. Я ведала, што яму было цяжка жыць у маёй сям'і. Бацькі мае — людзі вельмі працавітыя, адданы зямлі і сельскай гаспадарцы. Усё ў іх мае быць у парадачку, пра ўсё яны ў пару задбаюць. А майго мужа гэтаму дома не навучылі.

Калі я пераехала ў мужаву вёску, на першых парах не магла прыйсці ў сябе. Бруд, смурод, па падворку бегае некалькі курак, а так ні свінні, ні каровы. Дзякуй Богу, што мела малако ў грудзях, дык карміла дзіця, а калі настаў час, што трэба было яго прыкармліваць, брала малако ў суседзяў. Нягледзячы на тое, што я ўжо была ў апошніх месяцах цяжарнасці, я працавала, як магла. Папрыбірала ў хаце, пачысціла, памыла і толькі тады пайшла радзіць.

Пасля нараджэння другога дзіцяці я вытрымала ў гэтай хаце толькі два месяцы. Забраўшы двое малюсенькіх дзяцей, я вярнулася ў сваю вёску, у хату бацькоў. Але і тут мне не было лягчэй. Бацькі не маглі мне дараваць, што я не жыву з мужам. Ды й зрэшты штораз упікалі мяне, што выбрала сабе на мужа гультая „чыстай вады“. Я ў думках згаджалася з імі, бо не быў ён занадта працавіты. Быў, аднак, вельмі харошы і ўсё роўна я кахала яго. Дзяўчаты лёталі за ім, нягледзячы на тое, што быў жанаты і меў дзяцей. Ад таго часу мінула сем гадоў. Я пераехала жыць у горад. Знайшла някепскую тут працу і адчувала сябе чалавекам. Дзеці ўхо ходзяць у школу і, здавалася б, маё жыццё паспакайнела. Аднак жа ўсё гэта не так. Мы з мужам надалей не маем разводу, хаця жывем асобна, бо ён жа застаўся ў сваёй мамы. І калі б ужо ён зусім не хацеў нас знаць, дык было б можа і лепш. Але ж не! Мой муж наведвае нас раз у два-тры месяцы. Прыязджае як ні ў чым не бывала, лезе да мяне ў пасцель, гуляе з дзецьмі. Аднак жа найчасцей робіць гэта тады, калі меў нейкую справу ў Беластоку — раз гэта вяселле, другі раз нехта памёр, а часамі трэба проста нешта купіць. Для дзяцей грошай замнога не мае. Часамі застаецца на два дні, а пасля ад'язджае так неспадзявана, як і прыехаў. Мяне гэта абражае да глыбіні душы і я доўга пасля гэтага не магу суняцца, хаджу як непрытомная, раздражненая, б'ю дзяцей. Што рабіць? Як ты параіш, Сэрцайка? Прымаць майго мужа ў далейшым, ці проста зачыняць перад ім дзверы, каб не трывожыў ні мяне больш, ні дзяцей?

**Ганна**

Ганна! Думаю, што ў гэтай сітуацыі лепш было б зачыніць перад ім дзверы наглуха. Развесціся! Прынамсі перастала б ты яго чакаць. Відаць, жыць палюдску, у сям'і, ён не ўмеў і ўжо зусім адвык ад гэтага. Няма што спадзявацца на тое, што палепшае. Кожная жанчына на тваім месцы адчувала б сябе абражанай, калі б мужчына трактаваў яе дом як нейкі гатэль. Мусіш паставіць на ім крыжык, уявіць сабе, напрыклад, што ён загінуў у аўтамабільнай катастрофе ці недзе на моры, і замкнуць гэты раздзел. Паглядзіш, як табе стане лёгка і які прыгожы здасца табе свет! І колькі цудоўных людзей навокал...

**Сэрцайка**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, мая дачка паехала ў Амерыку. Яна там паўгода ўжо. І сніцца вось майму мужу такі сон. Быццам яна вярнулася, прыйшла да нас на кватэру. Ён вельмі здзівіўся, чаму яна вярнулася так хутка. Нашто тады быў гэты выезд і столькі клопатаў, звязаных з ім... А яна нічога на гэта, кажа, можа я яшчэ паеду. Ён глядзіць на яе і захапляецца. Яна такая прыгожая. Пісала, што вельмі папраўілася, але ж не — якраз у меру. А найбольш кідаецца ў вочы блузка — блакітная, такая прыгожая, што цяжка расказаць.

А мне прысніўся такі сон. Я размаўляю з сястрой той дзяўчыны, якая паехала ў Амерыку разам з маёй дачкой. Яны нейкі час жылі разам. Кажа яна мне, што мая дачка нарабіла шмат плётак на яе сястру. Я вельмі здзівілася, бо яна якраз плётак не любіць. І тут ужо пры мне дачка. Я ёй паўтараю толькі што пачутае. Яна таксама са здзіўленнем сцвярджае, што абсалютна нічога падобнага не было. А далей я ўжо на вёсцы, адкуль я паходжу, на дарозе пры могільніку іду з той дзяўчынай, што паехала з маёй дачкой. Але не дарога гэта, а поле, узаранае. Мы ідзем і яна паказвае мне каменьчыкі. Кажа: яны падобныя на тое серабро, што яны на полі ў Амерыцы збіраюць.

І яшчэ адзін сон. Прыехаў да мяне на кватэру мой брат. Трымае нешта, мяшок ці сумку ў руках. Я глянула і падумала: ага, бульбы мне прывёз! Ён кладзе гэта на падлогу. А гэта не бульба, а чорныя ягады або парэчкі, запакаваныя ў торбачкі. Брат падпіты, наступіў на ягады. Я кажу: асцярожна, бо ты падлогу цяпер пабрудзіш ботамі.

**Валянціна**

Валянціна! Твой першы сон добры і абазначае нешта прыемнае для тваёй дачкі. Аб гэтым сведчыць тое, што яна ў сне была вельмі прыгожая, а таксама яе блакітная блузка. Другі сон таксама някепскі, бо ішлі вы па дарозе пры могільніку, ды поле было ўзаранае. Праўда, гэтыя каменьчыкі могуць сведчыць у нейкай ступені пра цяжкасці ў дасягненні мэты. Што датычыцца апошняга сну, дык ён таксама абазначае поспех у справах — ці была б гэта бульба, ці ягады. Аднак жа і тут у радасці будзе крыху горычы.

**Астрон**

# КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### КЛЁПС З КАПУСТЫ І МЯСА

На чвэрць кілаграма змеленага мяса трэба ўзяць паўкілаграма тонка нашаткаванай капусты, адну шклянку сырой бульбы, сцертай на бурачанай тарцы, паўшклянкі дробна пасечанай цыбулі, 3 лыжкі алею, 1 морквіну, сцертую на тарцы, 1-2 расцертыя зубкі часнаку, 2 яйкі, паўшклянкі сцертай на тарцы булкі, 1 лыжачку майранку ці іншай прыправы, 1 лыжачку солі, 1/4 лыжачкі перцу, 2 лыжкі воцату (5-прац.).

1. Алей разагрэць у вялікай плоскай каструльцы, усыпаць туды капусту з цыбуляй, смажыць на сярэднім агні 5 мінут, памешваючы. Тады зменшыць агонь і смажыць яшчэ мінут пяць. Дадаць моркву і часнок, смажыць 4 мінуты, зняць з агню і астудзіць.

2. Яйкі і мяса перамяшаць, дадаючы цертую булку, прыправы, соль, перац, 1/4 шклянкі вады і воцат. Дадаць падсмажаную гародніну і сцертую на тарцы булку і ўсё дакладна вымясіць рукою.

3. Зляпіць тоўсты валік даўжынёю каля 20 см. Пералажыць яго ў каструльку (са шчыльнай пакрыўкай), змазаную тлушчам, накрыць і ўставіць у гарачую духоўку. Запякаць каля паўгадзіны. Тады адкрыць і пячы далей 30 мінут.

4 Клёпс выняць з духоўкі, пакінуць на 15 мінут.

5. Падаем гэту страву, нарэзаную скрылёчкамі, з бульбяным пюрэ і салатай.

Прапорцыя на 4—6 асоб.

### ЗАПЯКАНКА З БУЛЬБЫ

На 2 шклянкі стоўчанай бульбы трэба ўзяць 2 шклянкі расцертага тварагу, паўшклянкі смятаны, вельмі дробна пасечаную малую цыбульку, 1-2 збітыя яйкі, сцерты на тарцы жоўты сыр, соль, перац, тлушч.

1. Усе прадукты перамяшаць, апрача жоўтага сыра, палажыць у каструльку або вогнетрывалы посуд, змазаны тлушчам, пасыпаць жоўтым сырам.

2. Запякаць у гарачай духоўцы на працягу гадзіны.

3. Падаваць з салатай.

Прапорцыя на 2-4 асобы.

(З кніжкі **„Такая кухня, якія часы“ Кацярыны Пасяшынскай,** Варшава 1990 г.).



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Зорка

## Старонка для дзяцей



ЗІМОВЫЯ КВЕТКІ НА ДЗЕНЬ ЖАНЧЫН. Фота В. Завадскага.

Уладзімір Мацвеенка

## ЗАГАДКІ

### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

75

Медзяныя рогі,
Свінцовыя ногі,
На ўвесь твар акуляр,
У вадзе гаспадар.

76

Бяжыць край дарогі,
За дрот трымаюцца рогі.

77

Гэта так, ці мне здалося?
Вунь гарбуз на тонкай восі,
А на ім намаляваны
Горы, рэкі, акіяны.

78

Белыя галубкі
Паселі на слупкі.
Лапак не маюць,
А дрот трымаюць.

79

Хто ведаць жадае,
Хадзіце сюды,
Можа, сказаць
Хто гатоў,
Дзе рэкі да мораў
Цякуць без вады,
Дзе гарады
Без дамоў?

**Адказ на адгаданкі знойдзеш у наступным нумары.**

**Адказ на адгаданкі з папярэдняга нумара: 70. Бульдозер. 71. Люстэрка. 72. Брытва. 73. Калядар. 74. Іголка.**

## ЛІХА АДНАВОКАЕ

(казка)

Жыў каваль прыпяваючы, ніякага ліха не ведаў.

— Што гэта, — гаворыць каваль, — ніякага я ліха на вяку сваім у вочы не бачыў! Хоць паглядзець бы, якое там такое ліха на свеце.

Вось пайшоў каваль ліха шукаць. Ішоў, ішоў, зайшоў у дрымучы лес: ноч блізка, а начаваць няма дзе і есці хочацца. Глядзіць па баках і бачыць — непадалёку стаіць вялікая хата. Пастукаў — ніхто не адклікаецца; адчыніў дзверы, увайшоў — пуста, непрыемна! Залез на печ і лёг спаць не вячэраўшы.

Толькі пачаў засынаць каваль, як дзверы адчыніліся і ўвайшло ў хату цэлае стада бараноў, а за імі Ліха, баба велізарная, страшэнная, з адным вокам. Панюхала Ліха па баках і гаворыць:

— Э, ды ў мяне, здаецца, госці; будзе мне, Ліху, што паснедаць; даўненька я чалавечага мяса не ела.

Запаліла Ліха лучыну і сцягнула каваля з печы, нібы дзіця малое.

— Міласці просім, нечаканы госць; дзякуй, што зайшоў, ты, мусіць, прагаладаўся і схуднеў, — і мацае Ліха каваля, ці тлусты; а ў таго ад жаху душа ў пяткі ўцякла.

— Ну, няма чаго рабіць, давай спачатку павячэраем, — гаворыць Ліха; прынясло вялікае бярэмя дроў, запаліла ў печы, зарэзала барана, разабрала і сасмажыла.

Селі вячэраць. Ліха па чвэрці барана зараз у рот кладзе, а каваль кавалак у горла не лезе, дарма што цэлы дзень нічога не еў. Пытае Ліха ў каваля:

— Хто ты такі, добры чалавек?

— Каваль.

— А што ўмееш каваць?

— Ды ўсё ўмею.

— Скуй мне вока!

— Калі ласка, — гаворыць каваль; — ды ці ёсць у цябе вяроўка? Трэба цябе звязаць, а то ты не дасіся; я б табе ўкаваў вока.

Ліха прынесла дзве вяроўкі, адну тоўстую, а другую танчэйшую. Каваль узяў танчэйшую вяроўку, звязаў Ліха ды і гаворыць:

— А ну, бабка, павярніся!

Павярнулася Ліха і разарвала вяроўку. Вось каваль узяў ужо тоўстую вяроўку, скруціў бабку добра.

— А ну, цяпер павярніся!

Павярнулася Ліха і не разарвала вяровак. Тады каваль знайшоў у хаце жалезны шворан, распаліў яго ў печы на бела, паставіў Ліху на самае вока, на здаровае, ды як ударыць па шворку малатком — дык вока толькі зашыпела. Павярнулася

(Працяг на стар. 10)

Валянцін Лукша

## РУКІ МАЦІ

Сакавік дыхнуў
Вясною,
Белыя скруціў
Сувоі.
Вельмі гневаўся
Мароз,
Барадою белай
Трос,
Але ўсё
Было дарма —
Адгула
сваё
зіма.
Ранкам звоняць
Капяжы:
— Гэ-эй, вясна,
Да нас бяжы!
Разам
З ранняю
Вясною
Ды з птушынай
Гаманою
Завітала
Ў хату
Свята —
Ў сэрцы
Радасці багата.
Паглядзі
На калядар,
Там лісток —
Нібыта жар.
Ад яго
Святлей у хаце:
ВОСЬМАЕ
САКАВІКА!

СЛАВА
МАЦІ!

СЛАВА
МАЦІ!

СЛАВА
МАТЧЫНЫМ
РУКАМ!

Рукі маці!..
Шмат яны
Працавалі
Ў час вайны
Выпраўлялі
Ў бой крывавы
Дарагіх мужоў,
Сыноў,
Каб зара
Жыцця і славы
Над Радзімай
Ззяла зноў.
А калі
Была патрэба,
Самі
Браліся за зброю.
І змагаліся
Жанчыны,
Як сапраўдныя
Героі.
Рукі маці —
Знаюць дзеці —
Даражэй
За ўсё на свеце,
Прыгажэй
За ўсё на свеце
І цяплей
За ўсё на свеце.
Рукі маці
Хлеб пякуць,
Дом будуюць,
Жнуць
І ткуць.
Водзяць полем
Трактары
Ад зары
І да зары.
Нас збіраюць
Кожны раз
Раніцой
У школьны клас.
На лістку
Календара
Ззяе лічба
Як зара.
І з усімі
Малышы
Мам віншуюць
Ад душы.
Сёння дзень
Прыгожы самы
Сёння —
Свята
Нашых мам.

СЛАВА
МАМАМ!

СЛАВА
МАМАМ!

СЛАВА
МАМІНЫМ
РУКАМ!



*Радасць з апошняга снегу.* *Фота В. Завадскага.*

## Вясёлы куточак

— Твой тата не дапамагае табе ўжо рыхтаваць урокі?

— Не, апошняя двойка па матэматыцы зусім яго прыбіла.

☆

Настаўніца правярае дамашнія задачы сваіх вучняў. Пры сшытку Казіка гаворыць:

— Напішаш: „Дамашнюю работу буду рабіць сам“, а твой тата падпіша гэта сто раз.

## Вершы Віктара Шведа

### Я ЛІФТАМ ВЯРНУСЯ

**— Не прасоўвайся, Рыгор,**
**У акно глыбока.**
**Раптам выпадзеш на двор,**
**Мы ж жывем высока!**

**— Выпаду дык я наўрад,**
**Мілая мамуся.**
**Калі здарыцца — назад**
**Ліфтам я вярнуся.**

## Малюнкі школьнікаў




*Малюнак да казкі „Храбрае куранятка“. Эля Нічыпарук, III клас, школа ў Крыўцы.*

## Ліха аднавокае

**(Працяг са стар. 9)**

Ліха, разарвала ўсе вяроўкі, ускочыла як шалёнае, села на парог і крыкнула:

— Добра ж, ліхадзей! Цяпер ты не выйдзеш ад мяне.

Горш ранейшага спалохаўся каваль, сядзіць у куце ні жывы, ні мёртвы; так усю ночку і прасядзеў, дарма што спаць хацелася. Раніцай стала Ліха выпускаць бараноў на пашу ды ўсё па аднаму; памацае, ці сапраўды баран, схопіць за спіну ды і выкіне за дзверы. Каваль вывернуў свой кажух шэрсцю ўверх, надзеў у рукавы і пайшоў на карачках. Ліха памацала: чуе — баран; схапіла каваля за спіну ды і выкінула з хаты... Ускочыў каваль і дай бог ногі! Прыбег дамоў; знаёмыя яго пытаюць:

— Ад чаго гэта ты пасівеў?

— У Ліха пераначаваў, — гаворыць каваль. — Ведаю я цяпер, што такое ліха: і есці хочацца, ды не ясі, і спаць хочацца, ды не спіш.

**К. Д. Ушынскі**

## Паглыбляй свае веды

### МАРДОЎНІК



Мардоўнік — род шматгадовых, зрэдку аднагадовых травяністых раслін сям'і складанакветных. Вядома каля 150 відаў, пашыраных пераважна ў Еўразіі і Афрыцы. Добрыя меданосы, лекарственныя і дэкаратыўныя расліны.

У мардоўніка корань стрыжнёвы, сцяблы прамастойныя, простыя, або наверсе галіністыя, рабрыстыя, часта апушаныя. Лісце чаргаванае, ад зубчастанадрэзанага да двойчыперыстарассечанага, больш-менш калючае, знізу белалямцавае. Кветкі трубчастыя, правільныя, у шматлікіх аднакветных кошыках, размешчаных у агульным ложы, утвараюць шарападобную галоўку з агульнай абгорткай: абгорткі асобных кошыкаў з 12-25 лісцікаў, кожны кошык абкружаны шчацінкамі. Плод мардоўніка — густаапушаная з чубком сямянка.

На Беларусі адзін дзікарослы мардоўнік — шарагаловы, трапляецца рэдка. Расце ў хмызняках, на аблогах, засмечаных месцах, каля шашы. Цвіце ў ліпені і жніўні. Вышыня 70-150 см. Суквецці шарападобныя, блакітнавата-белыя (вяночак кветак белы, тычынкі блакітныя). Для лякарстваў выкарыстоўваюцца спелыя сям'янкі.

## Легенды нашай зямлі

### ХУТ

Хут, у каго ў доме жыве. вельмі таму спрыяе ў гаспадарцы, багацце ў дом прыносіць, снапы з чужых палёў у гумно, золата з няведамых скарбаў. Вечарам яго можна часам бачыць на небе, як ляціць вогненны, чырвоны — золата нясе, як цёмна, чорна — збожжа, снапы. Але яго трэба шанаваць, смачна карміць, яго любімая страва — яечня. Як спячэ гаспадыня яечню, нясе на гарышча, ставіць там і кліча:

— Хут, хут, ідзі сюды, дам яечаньку, абарачаньку.

Ён тады прыходзіць і есць. І тады ўсё ў дом носіць. На гарышчы тут жыве, а лётае дзе хоча, ніхто не ведае дзе. Можа перакінуцца ў што хочаш — у корч, у старое калясо, палена.

Кажуць, быў такі выпадак. Парабак падслухаў, як гаспадыня клікала хута есці яечню, ды з'еў тую яечню сам. Хут вельмі разгневаўся, думаў, што гаспадыня кпіны састроіла, і спаліў увесь двор і гумно, і дом. Гасілі людзі, гасілі і не далі рады. Стаяць, глядзяць на галавешкі. А тут калясо старое ляжыць (а гэта быў хут, ён перакінуўся ў калясо, жыць яму ўжо не было дзе). Дык сусед кажа:

— А навошта ж яно тут будзе гарэць? — і перакінуў яго ў свой двор.

І ўсё яму пайшло, і ўраджай, і ўсялякае дабро.

**(З кнігі „Легенды і паданні“)**

## Пазнаёмімся

346523, СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Техническая, д. 14, кв. 1. **Селезнёвой Оле.** (9 гадоў).

☆

346527, СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная, д. 43, кв. 66. **Щербинскому Алексею.** (12 гадоў).

☆

346527, СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная, д. 43, кв. 70. **Ефименко Ивану.** (11 гадоў).

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А




*Праз колькі трэба паазялиць суму, якая знаходзіцца ў сэрцайку кветкі, каб атрымаць лічбы, якія ёсць на пялёстках?*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

